Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 11 (47) 15-21 сакавіка 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Добрыя законы– не гарантыя добрага жыцця

**сцвярджае былы дэпутат ВС (XII склікання, калі і была прынята цяперашняя Канстытуцыя) Віктар Уласенка.**

– Мне падабаўся першы варыянт (усяго іх было каля 20) Асноўнага Закона краіны. Там канкрэтна запісалі, што чалавек - галоўнае.

*- Грамадзянін вышэй за дзяржаву?*

- Яна ж і створана для абароны насельніцтва, дапамогі яму. І ніяк не наадварот. Пазней гэты тэзіс завуаліравалі, зрабілі не такім адназначным.

*- Якая б ні была добрая Канстытуцыя, але жыццё яна не палепшыць.*

- Згодны. Сталінская Канстытуцыя ў свой час была адной з самых дэмакратычных у свеце, але як выконвалася? Англічане жывуць наогул без Канстытуцыі - і добра жывуць. Добрыя законы - яшчэ не гарантыя добрага жыцця. Каб нармальна ішлі эвалюцыйныя працэсы, неабходна прытрымлівацца заканадаўства. Кепская Канстытуцыя ці наадварот - адступаць ад яе нельга. Забойцу не спадабаецца адзін закон - ён будзе забіваць; вашаму суседу не спадабаецца нешта яшчэ, знаёмаму ... і пайшло-паехала. Нас яшчэ за савецкім часам прывучылі да непавагі да законаў: для выжывання людзі прывыклі красці на прадпрыемствах, хаваць падаткі, нарадзіўся цяпер цэлы "клас" - чаўнакі.

*- Атрымліваецца, прыклад у выкананні законаў павінна паказваць улада?*

- Абавязкова! Дарэчы, закладзены дастаткова складаны парадак унясення змяненняў у Асноўны Закон краіны. Каб не падстройваць Канстытуцыю пад канкрэтнага чалавека, забяспечыць стабільнасць у грамадстве. І нельга прымаць Канстытуцыю на рэферэндуме, калі галасаванне ідзе па нейкіх паняццях увогуле, у цэлым. Тое самае і са змяненнямі: рэферэндум дапаможа змяніць некалькі пунктаў, але гэта пацягне за сабою парушэнне збалансаванасці, цэласнсці заканадаўчай сістэмы. Калі змяняць законы - то толькі ў Вярхоўным Савеце, шляхам доўгага абмеркавання. Каб поўнасцю выключыць вузкаведамасныя інтарэсы.

*Напярэдадні другой гадавіны Канстытуцыі запісаў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Яны фіксуюць метэаўмовы. Прыборамі і ўласным здароўем.

*ВІЛЕЙКА. Няпростая сітуацыя на мясцовай гідраметэастанцыі. Яна займаецца назіраннямі за тэмпературай, вільготнасцю паветра, атмасферным ціскам, ападкамі, напрамкам ветру, тэмпературай глебы; вымярае ўзровень і тэмпературу вады, праводзіць яе хімічны аналіз. Дадзеныя дасылюцца ў сталіцу, апрацоўваюцца, затым складаюцца сінаптычныя карты. Якія, ў сваю чаргу, вызначаюць прагноз надвор'я.*

Валянціна Паслед, тэхнік-метэаролаг:

–Працуем, надта не скардзімся. З новым начальнікам не канфліктуем, бо бачымся рэдка. Яго кабінет там, у будынку ля вадасховішча. Сёлета павінны і мы туды пераехаць. Умовы працы тут нялёгкія.

Работа метэаролагаў складаная. Жанчыны дзяжураць па дванаццаць гадзін запар. Праз кожныя тры гадзіны амаль хвіліна ў хвіліну павінны сабраць дадзеныя і перадаць у Мінск. Метэаролагі ўсіх станцый на тэрыторыі рэспублікі (а іх да нядаўняга часу было 47) робяць гэта сінхронна, па гадзінніку. Добра, калі, вярнуўшыся з пляцоўкі, можна пасядзець у цёплым памяшканні. На жаль, гэтага пазбаўлены вілейскія метэаролагі. Будынак ацяпляўся катлом, які зламаўся. Таксама не працуе водаправод. Можа, таму ў пакойчыку, дзе дзяжураць жанчыны, такі своеасаблівы інтэр'ер: акрамя сталоў і крэслаў, пяць спецыяльных прыбораў, якія ўсе разам ствараюць моцнае адмоўна ўплываючае электрычнае поле, электраплітa, каларыфер– для абагравання, вядро з вадою– папіць, рукі вымыць.

Таццяна Церах, тэхнік-метэаролаг:

–Ваду носім ад суседзяў. У пакоі ў маразы было плюс пяць. Заробкі, здаецца, як і ва ўсіх бюджэтнікаў. Работа неблагая, трымаемся за яе.

На ўсякі выпадак хтосьці прынес у памяшканне газавую лямпу. Хто ведае, можа, і спатрэбіцца?

*Васіль САВІЦКІ.*

**Навіны рэгіёна**

## Як прывезці гуманітарную дапамогу?

*АШМЯНЫ. Умацоўваюцца сувязі паміж Ашмянамі і германскім горадам Эпельхаймам. Калі сябруюць, звычайна ходзяць адзін да аднаго ў госці. Летам немцы знаёміліся з мясцовымі краявідамі і адчулі на сабе беларускае хлебасольства.*

Настаў час і нашым ехаць за мяжу. Тамара Філіповіч, дырэктар мясакамбіната, знаёмілася з развіццём мясной прамысловасці, наведала прыватную школу мяснікоў. Анатоль Ясюковіч, настаўнік, звярнуў увагу на пытанні адукацыі.

Ашмянам праз нашу маленькую дэлегацыю (усяго 2 чалавекі) гаспадары прапанавалі камп'ютэры, якія былі ў карыстанні, але знаходзяцца ў добрым стане, медыкаменты на 21 тысячу марак.

Прапрацоўваюцца варыянты перадачы: нямецкі бок з сумненнем ставіцца да нашага мытнага прапускнога рэжыму.

*Валянціна ДРАЗДОВА.*

## Няўдалы бізнесмен

*МЯЗДЕЛ. Жыхар райцэнтра С. вырашыў заняцца бізнесам, прытым не купляй-продажам, а карыснай для людзей справай– выкананнем заказаў па вырабу акон і дзвярэй. Рукі ўмелыя, таму ўсе заказчыкі заставаліся задаволенымі.*

Але ўся справа ў тым, што не хапала прадпрымальніку толькі ўласнага дрэваапрацоўчага станка. Купляць дарага, ды і грошай шкада. Вось і вырашыў 43-гадовы сталяр украсці яго ў ПМК-66, дзе некалі працаваў. Ноччу забраўся ў сталярны цэх і дэманціраваў шматаперацыйны станок КДС-1. Пасля заявы ў міліцыю праз тры дні оперупаўнаважаныя РАУС Аляксей Балюк і Анатоль Чарняк устанавілі злодзея. Цяпер той дае паказанні следству і чакае суда. Бо згодна з Крымінальным Кодэксам можна адхапіць да 8 гадоў пазбаўлення волі.

*Павел ЖУКАЎ.*

## Вам- нашы сэрцы.

*8 сакавіка мужчыны падносяць жанчынам самыя разнастайныя падарункі. Хто кветкі, хто парфуму, хто аўтамабіль– у залежнасці ад палёту фантазіі і таўшчыні кашалька.*

Маладзечанскія мастакі падарылі зноў жа маладзечанскім жанчынам выставу сваіх жывапісных і графічных работ. Трынаццаць прызнаных і не вельмі вядомых майстроў пэндзля выставілі сорак сем карцін у памяшканні гарадской Дзіцячай мастацкай школы. Самі назвы іх– "Вясновы дзень", "Кветкі", "Спеў птаха", "Росквіт", "Юнацтва", "Дрэва жыцця" і іншыя павінны засведчыць, што вясна і жанчына– блізняты-сёстры: прыгожыя і загадкавыя, лагодныя і капрызлівыя, вясёлыя і засмучаныя.

Згаданая выстава будзе дэманстравацца ў ДМШ па адрасу вул. Я. Драздовіча, 5 два тыдні. Наведаць яе пажадана не толькі жанчынам, каму, уласна, і прысвечана яна, але і прадстаўнікам моцнай паловы чалавецтва. Каб у чарговы раз пераканацца: жанчына заслугоўвае не толькі мільёна руж, але і вашага сэрца.

*Віталь ПАШУК.*

## Правялі зіму двойчы

*Сёлета зіма ніяк не хоча здаваць свае правы. Магчыма, каб хутчэй гэта адбылося, яе ў Радашковічах праводзілі двойчы.*

Спачатку на Масленіцу, 25 лютага, фірма "Аліна" наладзіла святкаванне ў новым мікраараёне, а 8 сакавіка выканком пассавета– ля былога кінатэатра. "Аліна" ў гэты ж час прапанавала радашкоўцам святочную праграму, прысвечаную жанчынам. Многа мы гаворым аб змрочным, цяжкім жыцці.

Але ад размоў яно не лягчэе і не святлее. А такія святы, як у Радашковічах, дазваляюць забыцца пра нягоды і напасці як дзецям, так і дарослым. Бо можна пакатацца на кані, паўдзельнічаць у сямейнай эстафеце, пацягаць гіру, паспяваць, патанцаваць, з'есці гарачы блін ды выпіць гарбаты, ці проста пабыць на свежым паветры, парадавацца сонцу ды людзям.

*Мікола ЛІННІК.*

## Пост пажарнай аховы працуе. Не працуюць тэлефоны

*ВІЛЕЙКА. Разліты дзецьмі бензін з паяльнай лямпы стаў прычынай пажару ў Вязыні.*

Хлапчукі праз акно кінуліся на вуліцу. Суседзі– да тэлефона, каб набраць 01. Балазе, пост пажарнай аховы працуе тут жа, у Вязыні. Але тэлефоны не працавалі. Давялося ў далёкі канец вёскі адпраўляць ганца. Пакуль пажарныя прыбылі на месца здарэння, ратаваць не было чаго. Добра, дзеці засталіся жывыя.

*Алена АЛЬФЕР.*

## Натарыяльныя канторы цікавяць злачынцаў

*МАЛАДЗЕЧНА. У першыя дні сакавіка тры натарыяльныя канторы пацярпелі ад налётаў злачынцаў. Іх цікавіла адзінае– даручэнні на валоданне аўтамабілямі, якія былі выдадзены грамадзянам з лета мінулага года па цяперашні час.*

Узламаўшы дзверы, злачынцы выкралі падшыўкі спраў з даручэннямі з натарыяльнай канторы па вул. Б. Хмяльніцкага, 22 і з пакоя прыватнага натарыуса ў гасцініцы "Маладзечна". Толькі з прыватнай канторы па вул. Б. Хмяльніцкага, 10 паляўнічыя за паперамі не ўзялі нічога. Напад быў безвыніковы.

Цікава, што напярэдадні здарэнняў у ГРАУС была прынята пастанова аб выняцці гэтых даручэнняў у сувязі з расследаваннем буйнога злачынства па набыццю іншамарак за мяжой і рэгістрацыі іх на тэрыторыі РБ па фальшывых даументах і праз падстаўных асоб.

*Святлана САРОКА.*

## Падпіска прадоўжана

*МІНСК. Рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта" днямі прадоўжыла тэрмін падпіскі на рэспубліканскія перыядычныя выданні на 2-гі квартал 1996 года да 19 сакавіка. Разам прадоўжана падпіска і на некаторыя расійскія выданні: "АиФ", "Известия" іншыя.*

Прычына– катастрафічны недабор тыражу практычна на ўсе выданні. Намеснік міністра сувязі і інфарматыкі п. Малочка ў сваёй тэлеграме патрабуе прыняць меры па аднаўленню тыражу газет і часопісаў.

**А вы не забыліся падпісацца на "РГ"? Кошт на тры месяцы – 12 тыс. рублёў.**

*Аддзел інфармацыі.*

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў 1

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| Кошт | падпіскі | 12000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

